№ 59 Ausgabe B.

# ГОМАН

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Цэна с перасылкай і дастаукай да хаты:
на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Адрэс рэдакції: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрації і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 59 (255). Год III. Вільня, 30 ліпня 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## 29 ліпня.

**Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: Мясцовые атакі англічан на поўначы ад Ліс, на поўначы ад Скарп і на паўночным беразе Соммы адбіты.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: На адрэзку на паўдня ад Эн паабедзі, на поўначы ад Вільмонтуар, пасьля сільнай артылерыйскай падгатоўкі пачаліся мясцовые наступленьні ворагаў, але былі адбіты контратакамі.

У начы з 26 на 27 ліпня між Урк і Ардр мы згодна с плянам ачысьцілі пярэдні пояс нашых пазыцый і занялі лінію Фэр-ан-Тарнуа—Віль-ан-Торнуа. 27 ліпня ворагі абстрэлівалі нашы пакінутые пазыцыі. Наступаўшые ворагі вялі чысьленые атакі, каторые скончыліся адбіцьцем ворагаў.

---

ЛЮГАНО. Англіцкі генэрал Мільлер, які знаходзіцца ў Італіі на афіцыозным становішчы, галава „саюза адраджэньня Расеі“, паводлуг „Secolo“, прызнаў канечна патрэбным скінуць большэвіцкі ўрад у Расеі. Тады Расея ізноў займець сваё месца між саюзьнікамі. Ен дамагаецца, каб народ эканамічнымі загадамі быў падбурэн проці большэвікоў і немцаў. Войскі саюзьнікаў павінны злучыцца с сібірскімі войскамі. Амэрыканцам павінна быць аддадзена для абароны сібірская дарога, бо яны яшчэ не маюць патрэбнай дзеля ваеваньняназаходзі практыкі.

КІЕЎ У Ростове апублікавана ўмова між урадам Донскай обласьці і урадам Астраханскае обласьці. Абодва ўрады абецаюць адзін ад наму памагаць у барацьбе з большэвізмам. Яны-ж хочуць арганізаць новую дзержаўную фэдэрацыю ў быўшай паўднёвай, Расеі каторай паўнапраўнымі членамі былі-б обласьці Донская і Астраханская.

БЭРЛІН. Украінскае тэлеграфнае агэнцтва наказывае, што нямецкая ваенная каманда ў Украіне перэдала Украіне часьць бытага Расейскага чарнаморскага флота. Доля рэшты караблёў будзе вядома ў бліжэйшых днёх.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 23 ліпня пасьля доўгага перарыву 50 ірляндзскіх нацыяналістаў ізноў прынялі ўчасьце ў заседаньні англіцкай ніжняй палаты. Ділён падаў зара рэзалюцыю з жаданьнем, каб у адносінах да Ірляндыі была ведзена палітыка, адпаведаючая высокім прынцыпам, высказаным Вільсонам у яго апошняй прамове. Цяперашняя палітыка нязгодліва с тымі прынцыпамі, у імя каторых саюзьнікі вядуць вайну.

БАЗЭЛЬ. Прыехаўшые ў апошнім часе ў Францыю амэрыканскіе войскі складаюцца напалавіну з амэрыканскіх нэграў. Наплыў чорных войск вызваў у Францыі агульнае расчараваньне.

ВЕНА (В.Т.Б.). 29.VII. **Урадова.** У Албаніі с прычыны нашага наступленьня адпор ворагаў узрастае. Нашы пазыцыі ў завароце Семіні выдзержалі пяць вострых атак, крывава адбітых. У ваколіцах Малі Солёвэс ворагі атакавалі чатыры разы, але былі адбіты агнём і контратакамі.

БУКАРЭШТ. Парлямэнцкая сьледчая камісія, каторая вядзе сьледзтва аб членах б. міністэрства Братіану, выкрыла дакумэнты, якіе вельмі абвінавачываюць чыннасьці быўшага ўраду. Ужо цяпер віна падсудзімых зусім даведзена.

БУКАРЭШТ Румынскі сэнат зацьвярдзіў абвініцельны акт проці Братіану.

ГААГА. Бэльгійскі міністэрпрэзыдэнт Корэман назначыў камісію з 11 членаў дзеля разгляду пытаньня аб ужываньні флямандзкай мовы ў Бэлгіі. Аб рэзультатах яе работы гаворыць ужо тое, што большая часьць членаў яе — не флямандцы.

ЛЮГАНО. 28.VII. Справа быўшых расейскіх міністраў Протопопова і Маклакова пачалася ў Маскве.

ЛОНДОН (Рэўтэр). 28.VII. **Урадова.** Вялікасьць бастуючых работнікаў ваенных фабрык пачне сваю работу заўтра.

ШТОКГОЛЬМ. Ля берагоў Аўстраліі затануў карабель, каторы вёз 540 тысяч пудоў пшоннай мукі ў Швэцыю.

БЭРЛІН **Урадова.** У канале затоплено 21.000 тонн.

РЫГА. Штабс-капітан Р. пазнаёміўся ў 1917 г. ў Дорпаце с Брыгідай Б. з «мінуўшчынай». Пастанавіўшы з ёй ажаніцца, ён памяеьціў яе ў сваей сям'і ў Пецярбурзі. Улюбіўшыся ў яе па вушы, Р. у некалькі месяцаў растраціў на сваю нявесту ўсё сваё багацьце. Убачыўшы, што ўжо больш нема чым пажывіцца ад Р., яна кінула яго і перэйшла да аднаго купца ў Рызе. 19 ліпня Р. сустрэўся с сваей нявестай на вуліцы і пачаў з ёй гутарку. У часе гутаркі ён дастаў кінжал і перарэзаў ёй горла. На судзе ён раскрыў увесь абраз сваіх зносін з забітай і прызнаў сябе вінаватым. Суд прызнаў зьмякчаючые акалічнасьці і засудзіў Р. на тры гады ў вастрог.

СУВАЛКІ. Пазваленьне хадзіць па вуліцах да 12 гадзін вызвало тут тое, што маладзёж познай парой, калі працоўны народ ужо сьпіць, паднімае на вуліцах страшэнны шум. Stadthaptman з гэтай прычыны выдаў прыказ, што гуляць па вуліцах можна толькі да 11 гадз.

---

# ДА ПРАЦЫ!

> Жыва, жыва да работы —
> Без агляддкі, хто што можэ!
> Усе роўны без рашчоту,
> Усіх праца будзэ згожа!
>
> *Цётка.*

Пасьля апавешчэньня незалежнасьці Беларусі ў усходняй часьці яе (новая нямецкая акупацыя) пачалася шырокая арганізацыйная работа. Работа гэта вядзецца з двох канцоў: з аднаго боку беларускі ўрад у Менску стараецца ўтварыць сецьуправленьня краем, апіраючыся на мясцовые беларускіе рады, назначаючы ўсюды сваіх паўнамочнікаў; з другога—арганізуецца сама правінцыя, паветы, мястэчкі, вёскі, дзе, як вядома, асталіся самаўпраўные арганізацыі, ды цяпер перэстроіваюцца на нацыянальных асновах. Збудзілася наша вясковая моладзь: зусюль ідуць весткі, што і тут, і там закладаюцца кружкі і культурна-прасьветные арганізацыі («Зарніцы» ў Слабадзе і Старыцы Слуцкага пав. і інш.). І трэба шчыра прывітаць гэту праяву нацыянальнага прабуджэньня беларускіх народных мас, бо гэта— фундамэнт нашае нацыянальнае будучыны.

Нямецкая акупацыя ніякіх прашкод у гэтым ня робіць: ня гледзячы на бытнасьць нямецкіх войск, грамадзкае жыцьцё ў усходняй Беларусі не замірае, а разьвіваецца далей,—апрача тых ваколіц, дзе гаспадарка польскіх легіонераў душыла кожную жывую праяву народнай самачыннасьці. І тое, што робіцца цяпер на ўсходзі ад берасьцейскае лініі, павінно служыць прыкладам і дзеля заходняй Беларусі.

Праўда, тут—с прычыны блізкасьці фронту—зложыліся непамысные для нас варункі жыцьця, і нельга гаварыць аб шырэйшай арганізацыйнай сеці. Але больш, тым жывей павінны брацца за работу ўсе сьвядомые беларусы па вёсках і мястэчках. Ня гледзячы на ваенны стан, *на нацыянальным грунце* працаваць можна і ў нас. Яркі прыклад даюць нам Шастакі с сваім старастам Фалькевічэм (членам Беларускае Рады ў Вільні) і суседніе вёскі (пад Тургелямі, Рукойнямі), дзе ўтварылося сваё гняздо нацыянальнае работы: там самі селяне пазакладалі беларускіе школы, ладзяць тэатральные прэдстаўленьні, выпісваюць шмат беларускіх кніжэк і газэт і будзяць нацыянальную сьвядомасьць у-ва усей ваколіцы. Такіе-ж гнёзды пачынаюць тварыцца і там, дзе ёсьць беларуская школа ды ў ёй сядзіць добры беларус вучыцель. На жаль, варункі сучаснага жыцьця не даюць магчымасьці нашым народным вучыцялём весьці сваю работу дружна, арганізована,—і гэтак толькі найбольш энэргічные і папраўдзі ідэйные вучыцялі маюць даволі сьмеласьці і ініцыатывы, каб брацца за работу ў адзіночку, саматугам.

Вось, у гэтым кірунку павінны працаваць у нас па вёсках усе, хто дуж, хто мае беларускае сэрцэ і беларускую душу, хто жадае лепшае долі і шчасьця свайму народу. С кожным днём прыбывае ў нас беларусаў з Расеі і з усходняе Беларусі, дзе яны перажылі момэнты найвялікшага нацыянальнага пад'ёму, калі ў арміі адбываліся прыфрантовые беларускіе з'езды, калі ўся Беларусь ажно па Смаленск слала сваіх дэпутатаў на вялізарны ўсебеларускі з'езд у Менску, разагнаны большэвікамі. Гэтые новые ў нас людзі павінны прынесьці ў нашы вёскі новы дух, павінны будзіць наш народ, каб пазнаў, хто ён, каб зразумеў, хто яго прыяцель, а хто вораг, каб сьмела падняў панурэную галаву і ясными вачыма глянуў на сьвет Божы. Дзе ёсьць хоць адзін сьвядомы беларус, ён павінен перш за ўсё паруціцца аб беларускую школу. Дзе адкрылася школа, там трэба выпісваць беларускіе кніжкі і газэты, арганізаваць хоры, ладзіць вечарынкі і прэдстаўленьні, дабівацца беларускага казаньня і дадатковага набажэнства ў касьцелі і цэркві, трэба сваім прыкладам пацягнуць за сабой суседніе вёскі—ўсю ваколіцу. Толькі гэткім спосабам можэм мы цяпер працаваць для беларускай справы ў межах старой акупацыі, не баючыся ніякіх прашкод ад нямецкай уласьці: працаваць культурна на Беларускім грунце ніхто забараніць ня можэ. А гэтак прыгатуецца ў нас грунт і для будучыны, калі беларускі народ будзе прызван падаць свой голас праз сваіх выбранцоў, якіе засядуць у сваім сэйме судзіць і радзіць аб роднай Зямлі.

*І. Мелешка.*

---

# Вялікі крок упярод.

*(Каля зямельнага пытаньня).*

Развязка ў нас замельнага пытаньня вымагае ў першы чарод павялічэньня малазямельных селянскіх гаспадарстваў. Пры гэтым нельга абмінуць нарушэньня таго прынцыпа, на каторым дзержыцца ўвесь дабрабыт пануючых класаў: прынцыпа незачэпнасьці права прыватнае ўласнасьці. Уякой-бы форме гасударственая ўласьць ні зьбіралася надзяліць зямлёй малазямельных хлебаробаў, каб паставіць іх гаспадарку на крэпкіх асновах (—бяз гэтага ніякая рэформа не дасьць у нас карысьці!)—зямлю гэную трэба ўзяць у тых, у каго яе шмат. Ці яе возьмуць без ніякай платы, ці за плату,—гэта іншая справа; але так, ці сяк пераход зямлі ад вялікіх уласьнікаў да працоўнага селянства вымагае *прынукі закона*,—значыць, нарушае права незачэпнасьці прыватнае ўласнасьці.

Праціўнікі гэткай разьвязкі замельнага пытаньня заўсёды выступалі проці яе, кажучы, што яна падкопывае і руйнуе ўвесь грамадзкі лад. Аднак, яны забывалі, што і сучасные законы дапускаюць нарушэньне права прыватнае ўласнасьці, калі таго вымагае *агульная патрэба*: пад чыгункі, шоссэ, вуліцы дзержава мае права браць патрэбную зямлю на аснове прымусовага выкупа. Гэта прызнано, бадай, усімі гасударствамі сьвету. Мы бачылі гэта ў расейскіх законах. Прусы ў сваім колёнізацыйным статуце пайшлі яшчэ далей. Цяпер Нямеччына яшчэ болей пашырыла права прымусовага выкупа зямлі ў Курляндыі, абнімаючы траціну дворных абшараў. Урэшці, як наказывае кіеўскі карэспандэнт «Algemeen Handelsiadet», гэтман Украіны, Скоропадскій, заявіў, што ён пойдзе насустрэч жаданьню кожнага селяніна мець даволі зямлі, і гэта будзе праведзено ў жыцьцё на тэй аснове, што дзержава выкупіць 40% усіх зямельных абшараў вялікіх паноў.

Як бачым, спорка аб *прынцыпы*, на якіх павінно быць развязано замельнае пытаньне, скончылася ў тым духу, што гасударства карысьць народу прызнало за вышэйшую, чымсі права незачэпнасьці прыватнае ўласнасьці. Цяпер на чародзі стаіць пытаньне: *як, у якой форме* мае быць праведзено здаволіваньне зямлёй малазямельных гаспадароў.

Партыі, каторые стаўляюць перад усім карысьць хлебаробаў, дамагаюцца конфіскацыі дворных і іншых зямельных абшараў і разьдзелу іх між хлебаробамі без ніякае платы. Наадварот, вялікіе земляўласьнікі, ня менш зацікаўленые ў гэтай справе, чымся селяне, дамагаюцца поўнага выкупа па рынковай цане. А між гэтымі канцавымі кірункамі, ёсьць доўгі сьцяг груп і партый, якіе стараюцца пагадзіць інтарэсы хлебаробаў і земляўласьнікаў, прыхіляючыся то да адных, то да другіх.

Вось, разьвязку гэтага пытаньня павінен даць у нас, як і на Украіне краёвы сэйм, катораму будзе прыналежаць найвышэйшае права выдаваць законы наагул, а ў тым ліку і зямельные законы. Ці апошніе будуць правядзены на карысьць народу, ці на карысьць земляўласьнікаў, гэта залежыць толькі ад таго, які будзе ўклад сіл у краёвым сэйме, хто ў ім будзе перэважываць: заступнікі працоўнага пароду, ці паноў. А як у нашым краю народ—гэта беларусы, а паны—безмала ўсе палякі, дык на разьвязцы замельнага пытаньня адаб'ецца і нацыанальны склад сэйму: калі ў ім будуць перэважываць шчырые беларусы, каторые ходаюцца за карысьць свайго народу, дык і правядзеньне ў жыцьцё зямельнай рэформы адбудзецца ў такой форме, каторая не дасьць абярнуць зямельную залежнасьць селян ад вялікіх паноў у грашавую залежнасьць ад польскага капіталу.

Г. Б.

## Для чужой дзержавы.

Нeяк, седзючы ў кавярні, давялося мне чуць гутарку некалькіх польскіх паноў пры суседнім століку.

Прыехаўшый з Менску малады чэлавек апаведаў аб рабоце беларусаў у ўсходняй Беларусі. Між іншым, закрануў пытаньне аб тым як павінны аднасіцца да беларускага гасударственага будоўніцтва тутэйшые палякі.

— «я ня веру ў магчымасьць польска-беларускага зближэньня. Мы павінны глядзець аднаго: сваіх польскіх інтарэсаў — *ня толькі тут, але і у Польшчы.* А як беларусы ніколі нашым інтарэсам не падчыняцца, дык німа што казаць аб якойсь угодзе...»

Мяне не зьдзівілі гэтые словы: яны пацьвярдзілі толькі тое, што было ясна відаць з усяе польскае палітыкі ў нашым краю. А гэта палітыка знайшла сваё найбольш яркае выражэньне ў аслаўленым мэморыяле «сарака чатырох»: кіраўнікі ўсіх польскіх палітычных кірункаў зыйшліся на тым, што беларусы-каталікі — гэта палякі, што гэтак «польскі народ» — гэта безмала не «пануючая нацыанальнасьць» на нашай зямлі, што ў імя нацыанальных інтарэсаў тутэйшага «польскага народу» наш край трэба далучыць канечна да Польшчы. Толькі 44 польскіе прэдстаўнікі, і ўсе тутэйшые польскіе палітыкі сталіся сваё жаданьне аддаць наш край пад польскае панаваньне абаснаваць — інтарэсамі тутэйшага «польскага народу», ды нават не загікнуліся, што робіцца гэта для карысьці Польшчы!

Слухаючы гутарку маіх кавярняных суседзяў, я думаў: вось людзі, каторые шчыра кажуць тое, што думаюць. Відаць, што гэта — не «палітыкі»...

Але тое, што так могуць гаварыць між сабой «не палітыкі», навяло сумную мысьль: гэта-ж — людзі, каторые жывуць у нашым краю з даўных часоў, людзі каторых дзяды, ці прадзяды яшчэ лічылі сябе грамадзянамі нашай Зямлі, — гэтые людзі клапоцяцца цяпер аб чужую нам дзержаву, клапоцяцца аб тое, каб добра жылося жыхарам Польшчы, ды дзеля гэтага хочуць паняволіць Беларусь, абярнуць яе ў служку «польскіх інтарэсаў...» І с тэй лёгкасьці, з якой яны судзяць аб долі нашага народу, сулячы нам новае рабства, было ясна відаць, што ў іх галовах немашака зусім месца для думкі, што яны робяць нешта благое. А задумацца ёсьць няд чым: каб падобные людзі апынуліся ў Польшчы і пачалі там працаваць дзеля *чужой дзержавы*, — дык іх там усё грамадзянства закляйміло бы ганебным імем: здрайцы!

Так, здрайца той, хто, жывучы на зямлі чужога народу, будучы паўнапраўным грамадзянінам чужога Краю, які даў яму дабрабыт і багацьце, у аддзяку працуе над паняволеньнем гэтай сваей новай бацькаўшчыны. І ніводнэе гасударства, ніводзін народ, каторы дайшоў сілы на сваей зямлі ня можэ сьцярпець развіцьця на сваім целі гэткай скулы, якая можэ атруціць і давясьці да палітычнай сьмерці ўвесь край.

С такімі людзьмі і ў нас ня можэ быць ніякае згоды: з імі трэба бароцца не на жыцьцё, а на сьмерць, бо, астаўшыся жывымі, яны вечна будуць падрэзаць карані нашага быту. На абшырнай зямлі Беларускай ёсьць даволі месца для ўсіх, хто на ёй жыве,—і беларусы нічога не маюць проці таго, каб тутэйшые палякі асталіся палякамі і баранілі бы свае інтарэсы. Для ўсіх грамадзян, для ўсіх нацыанальнасьцей на вольнай Беларускай зямлі павінна быць дадзена поўная воля. Але нельга даваць волі тым хто цікуе на нашу пагібель, хто пасягае на волю і шчасьце нашага народу і нашай Зямлі!

*Х. Х.*

## У Вільні і ваколіцах.

× **Каморніцкая школа.** 22.VII. у Вільні, пры Біскупскай вул. 12, 2, ля катэдральнага пляцу, адкрыта школа каморнікаў—дзеля падгатоўкі тутэйшых жыхараў. Навука і жыцьцё ў школі — дармовые.

× **Фальшывые «нямецкіе» рублі.** У абароці ёсьць пяць сартоў фальшывых рублёў: 1) на польскім надпісе аб карах замест, як трэба, «będzie» напісано «bębzie», — значыць, замест «д» — «б»; 2) пад подпісам «Michałowski» ў фальшыўках нема кропкі; апрыч таго разэтка на шэрым фоне зьверху рублёвак мае авальную, а ня круглую форму; у польскім слове «pożyczkowej» на канцы замест «j» стаіць «i»; 3) тые-ж адзнакі, што і пад цыфрай 2, толькі разэткі надрукованы правільна: яны круглые, а не авальные: 4) «Posen, 17 April 1918». мае іншые літэры; подпіс «Ostbank für Handel und gewerbe. Darlehens-kasse Ost» надрукован меншымі літэрамі; у слове «Michałowski» між «c» і «h» вялікшы одступ; у латыскім тэксьце аб карах «f» перачыркнуто не наўскос, а проста; 5) благі друк сініх разэтак, — часта замазаны; шэры фон адбіты блага.

× **Аб нашэньні расейскай формы.** Глаўнакамандуючый на Усходзе апавешчае, што быўшые ваенные, расейскіе падданые, каторые варочаюцца ў межы Обэр-Ост, павінны зьнімаць форму, ці прынамсі зьмяніць яе, пафарбаваўшы ды зьняўшы ваенные адзнакі, нашыўкі і т. п. Асобы, каторые з якой-колечы прычыны ня могуць зьняць формы, павінны мець заўсёды пры сабе свае паперы і паказваць іх на кожнае жаданьне. Пры спробе ўцякаць у іх будуць стрэляць, не папярэджываючы. Адкрытае ці ўкрытае нашэньне аружжа забаронено пад страхам сьмерці. На кім будзе заўважэно аружжэ, у таго будуць стрэляць, не папярэджываючы.

× **Загад аб скаціне.** Stadthauptmann апавешчае, што каля чыгункі можна пасьвіць скаціну толькі пад наглядам, або наважаўшы.

× **Ліцытацыя.** У панядзелак, 29 ліпня, на Дамініканскай № 3 адбудзецца прадажа з ліцытацыі

## Беларускіе народные песьні.

Кругла мала (2), раю, раю, балоцічка,
Там хадзіла (2), раю, раю, маладзічка,
А сеіла (2) раю, раю, расу—красу.
«Расьці-ж мая (2) раю, раю, раса краса.
А тонкая (2) раю, раю, высокая,
Каранiстая (2), раю, раю, глыбокая,
А на лісьце (2), раю, раю, шырокая!
Як я з татам (2) раю, раю жыці буду,
Паліваці (2), раю, раю, цябе буду.
А як стану (2), раю, раю, ў сьвякратунькі,
А як з корням (2), раю, раю, цябе вырву!
А выкіну (2), раю, раю, на вуліцу.
Няхай цябе (2), раю, раю, коні стопчуць,
А хлопчыкі (2), раю, раю, расьцягаюць.
А конікі (2), раю, раю, капытамі,
А хлопчыкі (2), раю, раю, чабатамі.
А конікі (2), раю, раю, гарцуючы,
А хлопчыкі (2), раю, раю, танцуючы!

*Францішк Олехновіч.*

# На Антокалі.

П'еса ў 3 актах са сьпевамі і танцамі.

(Гл. „Гоман“ № 58).

БАРБАРА.

О, о! швагра камплімэнты гаворэ!

**З'ява 19.**

ТЫЕ-Ж і ПАЧТЫЛЬЕН.

ПАЧТЫЛЬЕН.

Ці тут жыве пан Радзівілловіч?

ВІНЦЭНТ.

Але, тут. (бярэ ад пачтыльёна пісьмо. Да Барбары): Ах, гэта мусіць ад гэнага консуля, бо Ігнат казаў, што спадзяецца пісьма ад консуля... (Пабачыўшы, што пачтыльён стаіць і чэкае, кажэ да яго): А што? чаго?

ПАЧТЫЛЬЕН.

Трэба распісацца, бо заказное.

ВІНЦЭНТ.

Ага, трэба распісацца.. (Распісывзецца ў кнізе, каторую падае яму пачтыльён).

**З'ява 20.**

ТЫЕ-Ж без ПАЧТЫЛЬЕНА.

БАРБАРА.

Мусіць шмат часу пройдзе, пакуль трохі ён дастане гэные грошы і трэба будзе паклапаціцца?

ВІНЦЭНТ.

А няўжо-ж! Трэба трошкі і паклапаціцца!

**З'ява 21.**

ТЫЕ-Ж, МІХАЛІНА і ЗОСЬКА.

(уходзяць у капялюшох).

МІХАЛІНА.

Ну, мы ўжо гатовы!

БАРБАРА.

Дык пойдзем!

ВІНЦЭНТ.

Пойдзема! (Усе апрача Язэпа выходзяць.

**З'ява 22.**

ЮЗЮК, пасьля АРОН.

АРОН

(уходзіць з грамафонам ставіць яго на стале і ладзіць).

Ну, вось і грамафон! Ух! які пекны грамафон! (да Юзюка): Што? ня пекны грамафон? А які голас! Ух! які голас Паслухайце, я вам зара заіграю адзін кавалак...

ЮЗЮК

(устае з ложку, ідзе на фронт сцэны і седзе на ўслончыку каля варштату ззадам да Арона. С кішані яго тарчыць якаясь бутэлечка).

Мяне ўжо ніякі кавалак не цікавіць.

АРОН.

Чаму-ж гэта? Фэ! Такі малады і не цікавіць... Я, пан Язэп, ведаю ў чым рэч... Гэтая?.. Што?.. Зося?..

ЮЗЮК,

Э, кіньце!..

АРОН.

Чаму? я маю і для вас адзін кавалак. Я ведаю чаго вам патрэба! Вам трэба ўдавы, такой удавы, што мае грошы. Вы добры рамесьнік, вам патрэба так сама мець сваю краму. Вам, пан Язэп, патрэба кабеты разумнай — адным словам кабеты да інтарэсу... А гэта Зоська... — выбачайце — гэта не для вас жонка.

ЮЗЮК.

Ды кіньце ўжо гэта!

АРОН.

Панок! я маю для вас такую ўдаву.

ЮЗЮК (нецярпліва).

Э!

АРОН.

Што: э? чаму: э? Што? ня хочэце ўдавы? ня трэба! Я вам скажу іншую рэч: вы, пан Язэп, яшчэ вельмі малады! Вы так надта не маркоцьцеся. Вы яшчэ не раз у жыцьці будзеце закахаўшыся і не раз яшчэ будзеце маркоціцца, дык на што адразу рабіць такі вялікі смутак? Я вам вось што скажу: пастарайцеся перш-на-перш мець

сьледатваў берасьцейскае ўмовы. Але выхад знайсьці трэба.

ШТОКГОЛЬМ. Усё Мурманскае узьбярэжжэ аб'яўлено мурманскім саветам у асадным палажэньні. Станцыі мурманскай чыгункі маюць за камэндантаў англічан. Адбылося многа обыскаў. Арэштавано каля 100 асоб.

Глаўные ваенные сілы саюзьнікаў сабраны ў Архангельску.

МАСКВА. Троцкі выдаў загад аб забароне расейскім грамадзянам пад грозьбай кары сьмерцю якую-колечы помач саюзьнікам.

Чычэрын пішэ ў «Ізвестіях»: «Выезд саюзьніцкіх дыплёматаў з Валогды ў Архангельск вельмі засмуціў расейскі ўрад, каторы энэргічна пратэстуе проці нарушэньня саюзьніцкімі вайскамі нэўтральнасьці Расеі і проці паддзержкі чэха-славацкага руху».

МАСКВА. 25.VII. **Урадова.** Ня гледзячы на вельмі сільны адпор савецкіх войск, Сімбірск узят чэха-славакамі.

С прычыны гэтай весткі „Правда“ пішэ: „Сімбірск быў адным с пунктаў, на якіх апіралася савецкая ўласьць, а такжэ глаўным складам хлеба. Небаспека набліжаецца. Ворагаў многа, і яны добра арганізованы. Калі ўпадак Самары не збудзіў работнікаў, дык упадак Сімбірска напаўняе пролетарыат страхам і трывогай за будучыну пролетарыацкай рэволюцыі“.

Між генэралам Хорватам і чэха-славакамі зроблена ўмова, паводлуг каторай чэха-славакі абязываюцца памагчы ген. Хорвату ў паходзі на Хабаровск і ў заходні Сібір.

МАСКВА (В.Т.Б.). Доказы зносін між пасольствамі саюзьнікаў і забойцамі гр. Мірбаха набіраюць усё вялікшай вагі. 6 ліпня, ў дзень сьмерці Мірбаха, пачалося ў Яраслаўлі паўстаньне, паднятае сэрбскім афіцэрам. Белая гвардыя ў Яраслаўлі аб'явіла стан вайны з Нямеччынай.

Начальнік савецкіх войск, Мураў'ёв, каторы перайшоў да чэха-славакоў, вядомы авантурыст і хабарнік. Перайшоўшы да чэха-славакоў ён таксама аб'явіў стан вайны з Нямеччынай.

Міністэрства сібірскага ўраду знаходзіцца ў Омску. Яно аб'явіло неважнымі ўсе большэвіцкіе прыказы і вярнуло права ўласнасьці.

ВЫБОРГ. Фінляндзкіе газэты наказываюць, што агенты саюзьнікаў, быўшые чырвонагвардзейцы, пускаюць па вёсках чуткі, што Англія гатова прадаваць жыхарам муку па 3 кап. фунт праз 3 гады, калі фінляндцы згодзяцца зрабіць саюз з Англіей.

МАСКВА. Троцкій апавешчае, што паўстаньне ў Яраслаўлі затушэно. На Волзе арганізуецца сільная савецкая флётылія дзеля барацьбы с контррэвалюцыянерамі.

Вялікіе князі Юрый і Мікалай Міхайловічы і Дзьмітры Канстантыновіч перавезены ў Пецярбург.

Жалезнадарожные зносіны з Яраслаўлем праз Валогду вернены.

МАСКВА. Нявыдзержанае становішчэ чырвонай гвардыі ў унутрэных палітычных затрудненьнях падбіло Троцкага прэдлажыць савецкаму ўраду роспуск чырвонай гвардыі і ўтварэньне пастаяннай арміі с прымусовай службай. Плата новай арміі будзе шмат паменшэна.

ЛОНДОН (Рэўтэр). Японія згодзілася на прэдлажэньне Злучэных Штатаў паддзержаць армію чэха-славакоў у Сібіры.

КІЕУ. Монархічны зьезд у Кіеві з учасьцем чысьленых монархістаў з усяе Расеі закончэн. Большасьць жадала завядзеньня абсалютнай монархіі і ваеннай дыктатуры. Акцябрысты і нацыяналісты пратэставалі проці гэтага і дамагаліся констытуцыйнае монархіі. Прыпята рэзалюцыя з жаданьнем для Вялікарасеі такога дзержаўнага ладу, які быў перад лютавай рэвалюцыей леташняга году.

БЭРЛІН. Даведзено, што б. цара растрэлялі ўжо ў аўторак, 10 ліпня.

18 ліпня адбылося ў Маскве заседаньне цэнтральнага спаўняючага камітэту пад маршалкоўствам Сьвердлова. Камітэт прызнаў правільнай „кару. сьмерці над каранаваным катам“.

Жонка і сын Мікалая Раманава перавезены ў другое месца.

У рукі савецкага ўраду папаў днеўнік б. цара, ведзены ім да самых апошніх дзён. У ім часта ўспамінаецца Грыгор Распутін. Днеўнік будзе надрукован.

## З усяго сьвету.

БЭРЛІН. Новы статс-сэкрэтар заграпічных спраў, ф. Гінцэ, выехаў у глаўную кватэру, дзе ён прабудзе некалькі дзён.

БРУССЭЛЬ. Валонскі ўрад у адкрытым пісьме зварочываецца да бэльгійскага караля с просьбай прыстаць на мірную форму графа Гэртлінга: „Паварот Бэльгіі за нямецкіе колоніі“.

ВЕНА (В.Т.Б.). Імпэратар назначыў б. міністра-прэзыдэнта Зэйдлера за дырэктара свае Канцэляры.

ВЕНА. Новы міністэр-прэзыдэнт, Гуссарэк, у сваей праграмнай прамове ў парлямэнце адзначыў патрэбу цясьнейшага саюза з Нямеччынай, канечна патрэбнага да жыцьця абедзьвых дзержаў.

БУКАРЭШТ. Парлямэнт прыняў перэвагай усіх галасоў проці двох закон аб правох і павіннасьцях румынскіх грамадзян для жыдоў.

ЛОНДОН. С прычыны набору рэкрутаў с паміж работнікаў ваенных фабрык узьнялася забастоўка. Яна ўсё ўзрастае і абнімае ўжо 150.000 работнікаў. Урад стараецца ўмовіць работнікаў устрымацца ад забастоўкі ў гэткі важны для разьвязкі вайны момэнт і грозіць забастоўшчыкам узяцьцем іх усіх у салдаты.

ЛОНДОН (Рэўтэр). Чэрчыль заявіў у Ніжняй палаце, што цяперашняя забастоўка работнікаў ваенных фабрык—грозна для гасударства. У Бірмінганскім прамышленым окрузе бастуюць 100 тыс. работнікаў. У Лідсе на конфэрэнцыі работнікаў пастаноўлено аб'явіць агульную забастоўку, калі ўрад не адмовіцца ад набору рэкрутаў спаміж работнікаў ваенных фабрык.

ШТОКГОЛЬМ. Тут былі чатыры здарэньні сьмерці ад халеры.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньні.

**26.VII. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* На паўдня ад Альбэр мы адбілі англіцкае наступленьне і ўзялі палонных.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* На полі баталіі між Эн і Марн вострые наступленьні ворагаў адбіты часьцю перад, часьцю ў нашых лініях. Наабапал Урк бітвы трывалі да вэчара. Мы на поўначы ад Ульшы-ле Шато выкінулі ворагаў з іх пярэдніх ліній. На поўдня ад Урк мы атакай адкінулі варожые контратакі. На заходзі ад Вэнсэль, на Марне, ворагі пасьля вострае бітвы адбіты перад нашымі лініямі. На палудзенным заходзе ад Рэймса мы адбілі контратаку белых і чорных французаў. Між далінай Сініп і Суэн ворагі на самай раніцы пачалі атаку, ды былі адбіты.

У бітвах на паветры ворагі ўчора ўтрацілі 26 самалётаў і 1 прывязны лятучы шар. Барон ф. Ріхтгофэн дайшоў свае 30 пабеды, ды гэтак эскадра пагібшага бар. ф. Рыхтгофэна мае 500 пабед. Паручык Левэнгарт дайшоў свае 44 пабеды.

**27.VII. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* Наабапал Скарп у начы баевая чыннасьць крапчэла.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* Між Суассонам і Рэймсам баевая чыннасьць шмат слабейшая. У Шампані французскае наступленьне пры Пэрт адбіто.

*Фронт Альбрэхта Вюртэмбэрскага:* Удачные разьведкі ў Вогэзах і ў Эльзасе.

**28.VII. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* Ажыўленые разьведкі і агонь артылерыі. Наступленьні пры Ліс, наабапал Сомм і на поўначы ад Мондід'е адбіты.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* На полі баталіі —ціш. У Шампані ворагі ўварваліся на нашы пярэдніе лініі на паўдня ад Сасновых гор. Контратакай мы блізка зусім выкінулі адтуль.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. С прычыны шырэных чутак аб хваробе Гіндэнбурга вялікая глаўная кватэра апавешчае на жаданьне самога Гіндэнбурга, што ён чуецца вельмі добра.

БЭРЛІН. Мы ўтрацілі ў бітве між Эн і Марн пры апошнім варожым наступленьні каля пятай ці шостай часьці таго абшару, каторы мы здабылі, наступаючы на Эн у бітвах 30 мая і 1 чэрвеня.

НЬЮ-ЮРК. Амэрыканская армія на заходнім фронці карыстаецца дзеля разьведак дружынамі апашоў з Орызоны.

ВЕНА (В.Т.Б.). 26.VII. **Урадова.** У Албаніі між Кузі і морам мы пачалі наступаць і ў некалькіх пунктах дайшлі да Сэміні, ня гледзячы на заядлые контратакі ворагаў.

ВЕНА (В.Т.Б.). 27.VII. У Албаніі нашы войскі пры Кальмі перайшлі цераз Сэміні.

У начы з 24 на 25 ліпня нашы марскіе лятуны атакавалі англіцкіе аэродромы пры Отранто. Апошніе згарэлі.

ЛОНДОН (Рэўтэр). Адміралцейства наказывае:

Ад 18 да 24 ліпня нашы лятучые сілы скінулі 15.000 кілёгр. бомб на Зээбрюггэ, Брюггэ, Остэндэ. Зніштожэны 14 варожых самалётаў; у нас згінуло толькі 5.

**Увага ВТБ:** З вэры годнай крыніцы мы даведываемся, што вялікшай удачы гэные налеты ня мелі. Ворагі ўтрацілі больш самалётаў, чым мы.

ЛОНДОН. **Урадова.** Помочны крэйсэр «Мармора», 10 000 тонн, затоплен 23 ліпня нямецкай падводнай лодкай.

Адзін англіцкі контрмінаносец затануў 24 ліпня.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводны лодак навакол Англіі: 18.000 тонн.

## Беларускіе народные песьні.

### „ЖНІВО“.

*Вітэбская губэрня.*

Сама пайду дарогаю,
Голас пушчу дуброваю,
Няхай голас галасуіць,
Няхай татунька чуіць:
«Калі маё дзіця пяець,
Няхай пяець, красуіцца,
У чаравічкі абуіцца,
На кірмаш гатуіцца!
А калі нявестунька—
Няхай яна ўгамуніцца,
У лапцікі абуіцца,
На прыгон гатуіцца!»

———

А каліна маліна
Усе лугі пакрасіла
Да сваім белым цьветам,
Чырвонымі ягадкамі.
Маладая Дар'ячка
Усіх дзевак пакрасіла,
Да сваім белым ліцом,
Чырвонымі каралькамі,
Да сьціпнаю работкаю,
А плаўнаю паходкаю.

Закурыўся а дробненькі дожджык
Па чыстаму полю—закурыўся!
Затужыўся а мой родны татунька
Па майму баздольлю - затужыўся!
„Ня тужыся, а мой родны татунька,
По майму бяздольлю—ня тужыся!
Калі буду я у Бога шчасна,
Ня буду нешчасна—калі буду!
Калі буду я у Бога гóдна,
Ня буду галодна—калі буду!

———

Як пайду я па полю,
Пушчу я галасок да дому,
А хто-ж мой галасок пераймець?
Пераймець галасок мой татка
родны:
«Гэта маё дзіцятка сьпяваіць,
Шырокія постаці займаіць.
Частыя копачкі стаўляіць!»
Як пайду я па полю,
Пушчу я галасок да дому,
А хто-ж мой галасок пераймець?
Пераймець галасок мой сьвёкарка:
«Гэта маё зявайла зяваіць,
Вузенькія постаці займаіць,
Рэдзенька снапы стаўляіць!

———

Перапёлка, ня ві гнязьдзечка
Блізка ля дарожкі!
Перапёлка, пастушкі пагонюць,
Гнязьдзечка распоруць!
Перапёлка, гнязьдзечка распоруць,
Яечкі паберуць!
Перапёлка яечак ня будзіць
Табе жаль будзіць!
Ты, Мар'ячка ня ві вяночка,
Восянь недалёчка!
Сваты прыедуць, вяночак здымуць,
А чэпчык надзенуць!
Мар'ячка, вяночка ня будзіць,
Табе жаль будзіць!

## АБВЕСТКІ.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман» Рэдактар Язэп Салавей.